Да заканчэння падпіскі на «Народную Волю» на 2015 год — лічаныя тыдні. Калі ласка, не спазніцеся!

www.nv-online.info

№ 94 (3937)

# Народная Воля

2 снежня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

# Не допустить Майдана!

**Три пути, и все в тупик. Участие в президентских выборах с единым кандидатом оппозиции, участие в президентских выборах нескольких оппозиционных кандидатов, бойкот выборов… Какую дорогу ни выбери, финал известен.**

**Потому что слово “выборы” нам надо брать в кавычки.**

**Потому что у оппозиции нет единого сильного лидера.**

**Потому что есть украинский опыт, где Майдан начинался с нескольких десятков избитых студентов, а превратился в миллионные акции протеста; и есть белорусский опыт, когда многотысячные акции протеста были кроваво разогнаны — а среднестатистический избиратель не только не вышел протестовать, не возмутился, но даже не удивился.**

**И все-таки мне кажется уместным вспомнить именно об украинском опыте. И о том, что на Евромайдан людей вывели не лидеры, на улицу людей вывела идея.**

**“Революция достоинства” начиналась не с персоны, она начиналась с внезапно отобранной европейской мечты. И хотя принято считать, что нашим народам — украинскому, белорусскому, российскому, на многие поколения корнями вросшим в традиции вождизма, обязательно нужен вождь, Евромайдан этот тезис опроверг. Он не имел вождей.**

**С другой стороны, сегодня не надо проводить глубоких исследований, чтобы понять: хочешь напугать белорусов — говори о Майдане. Украинские события ввергли в глубокую депрессию даже многих демократических активистов, и уж тем более — обывателя. Хаос, нестабильность, жертвы — вот оборотная сторона революции. Пережить это не хочет никто. Нравится нам это или нет, но романтические призывы к революции, к протесту большинством белорусов сегодня воспринимаются как призывы к кровопролитию. Можно, конечно, спорить, переубеждать, доказывать, не принимать эти страхи в расчет, но политика, к сожалению, — искусство возможного.**

**С какой идеей оппозиционным политикам идти на выборы? Под какую идею собирать “Плошчу”? А если не планировать массовых акций протеста, то какой мегасмысл в будущей президентской кампании должны видеть демократические силы?**

**Оппозиционные лидеры как-то обтекаемо и очень поразному отвечают на эти вопросы. Но, судя по тому, что идет жесткая валтузня-конкуренция за звание единого кандидата, они намерены играть (именно играть!) в выборы.**

**По моему убеждению, такие ролевые игры безответственны и аморальны. И уж тем более неправильно в нынешних условиях пытаться пиарить свою структуру, партию и особенно персону по принципу: “С паршивых выборов — хоть шерсти клок”.**

**В то же время нельзя не признать, что как только у Центризбиркома появляется работа, то появляются и дополнительные возможности для популяризации оппозицией своих идей, донесения до людей своей точки зрения, своего видения ситуации, планов, стратегий. Не использовать такую возможность — значит, не быть политиком. То есть участвовать в кампании надо.**

**Как оппозиции вырулить из этой ситуации, окончательно себя не дискредитировав?**

**Поделюсь своими соображениями на этот счет.**

**Я считаю, что в грядущей политической кампании оппозиция должна участвовать с идеей, но без вождей.**

**Начну с идеи.**

**Многие считают, что такой идеи просто нет. Потому что кто-то выступает за “белорусскую Беларусь”, кто-то — за “русско-белорусскую”, кто-то — за европейский выбор, кто-то — за евразийский; кто-то хочет перемен, кто-то их боится; одни еще готовы мириться с Александром Лукашенко во главе страны, другие уже не справляются с аллергией на надоевшее за 20 лет лицо…**

**Все так.**

**И тем не менее есть лозунг, который сегодня поддерживает подавляющее большинство белорусов. И этот лозунг — “Не допустить Майдан!”. Что подразумевает: “Не допустить в Беларуси потрясений, революции, войны, кровопролития, слез и бед!”**

**Да, Александр Лукашенко тоже про это говорит. Более того, признает, что в произошедшем в Украине более всех виноват Янукович.**

**И правильно признает. Потому что сподвигнуть народ на бунт и революцию может только власть. Если нет честных выборов, если нет справедливого суда, если граждане — коврик, о который государственные мужи вытирают ноги, если общественные настроения не имеют выхода, то рано или поздно котел недовольства взрывается.**

**А это значит, что именно Александр Лукашенко, на мой взгляд, перекрывший все возможности реального народовластия, своей политикой ведет страну к Майдану, к революции.**

**Если жить и править по принципу “После меня хоть поубивайтесь”, то да, можно и так. Но если думать о народе, о том, как не довести Беларусь до кровавых сценариев, то срочно нужно проводить серьезные политические реформы, реформу судебной системы, местного самоуправления… Тем более что у белорусской власти больше нет возможности тушить очаги недовольства деньгами, как это было раньше.**

**Чтобы не случился Майдан, власть должна отказаться от конфронтационного сценария государственного управления с использованием примитивных инструментов типа “Не пущать!”, “Запретить!”, “Наказать!”, “Посадить!”. Хотя бы потому, что в странах, где есть возможность для борьбы идей и идеологий в парламенте, в прессе, в публичных дискуссиях, не переполнены тюрьмы и не случаются массовые побоища на улицах…**

*(Окончание на 2-й стр.)*

ПАД ГРАДУСАМ

## Ідзе пацяпленне

*“У наступныя выхадныя на тэрыторыю Беларусі пачнуць паступаць больш цёплыя і вільготныя паветраныя масы з поўдня Еўропы, пад уплывам якіх тэмпература паветра павысіцца, характар надвор’я зменіцца: маразы аслабнуць, затое будуць адзначацца ападкі і галалёдныя з’явы”,* — паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

А пакуль яшчэ будзе марозна. У сераду днём -1...-7 градусаў. У чацвер і пятніцу прагназуецца -3...-10 градусаў, пры праясненнях — ад 11 да 13 марозу, днём — ад 0 да -7 градусаў.

СКАНДАЛ

# Русы даказвае, што ён не лысы

Нават у выхадныя беларускі бок не спыняў намаганняў дамовіцца з Расіяй аб аднаўленні паставак харчовых прадуктаў айчыннай вытворчасці.

У суботу намеснік міністра сельскай гаспадаркі Беларусі **Ігар Брыло** сустрэўся з кіраўніком “Россельхознадзора” **Сяргеем Данквертам.** Але дамовіцца не ўдалося. Наадварот, на гэтай сустрэчы расійскі бок выставіў Беларусі новыя прэтэнзіі.

Паводле інфармацыі “Россельхознадзора”, цягам апошнім трох год беларускі бок не вырашаў належным чынам праблемы з бяспекай паднагляднай і падкаранціннай прадукцыі. Цяпер, калі Расія ўвяла забарону на імпарт прадукцыі з ЕС, гэтыя праблемы абвастрыліся.

Напрыклад, сёлета “Россельхознадзор” накіраваў у Мінск ажно 43 лісты з просьбай правесці службовае расследаванне ў сувязі з выяўленымі парушэннямі пры пастаўках прадукцыі жывёльнага паходжання. Але, як паведамляецца, на гэтыя лісты было атрымана ўсяго пяць адказаў. Ёсць прэтэнзіі і да бяспекі раслiннай прадукцыі. Апроч гэтага, Расія шмат разоў выяўляла геном чумы свіней у гатовай мясной прадукцыі з Беларусі. Таксама выяўлены каналы буйнамаштабнай кантрабанды тавараў з беларускай тэрыторыі.

Такім чынам, расіяне патрабуюць як мага хутчэй змяніць існуючую сітуацыю і гарантаваць бяспеку сыравіны і харчовай прадукцыі, прызначанай для расійскага рынку. Сярод патрэбных захадаў — прадухіленне транзітных паставак прадукцыі па фальшывых ці падробленых дакументах.

У сваю чаргу беларускі Мінсельгасхарч адзначае, што ўвядзенне часовых абмежаванняў на пастаўкі прадукцыі ў Расію не мае сур’ёзных падстаў і робіць негатыўны ўплыў на двухбаковы гандаль. Беларусь прасіла аднавіць пастаўкі ўжо з 1 снежня. Мінск гатовы да перамоў па ўдасканаленні на тэрыторыі Мытнага саюза сістэмы лабараторнага маніторынгу харчовай прадукцыі па асобных фактарах рызыкі. Таксама Мінсельгасхарч гатовы стварыць сумесную камісію па выяўленні шляхоў, якімі геном АЧС трапляе ў прадукцыю шэрагу беларускіх мясакамбінатаў. Але Маскве гэтых прапаноў чамусьці недастаткова. Праблема пакуль не вырашана, хаця беларускі бок чакае падпісання нейкага міравога пагаднення з дня на дзень. Учора ў Беларусь прыехалі ветэрынарныя спецыялісты з Расіі, ЕС, Украіны, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Польшчы, а таксама Міжнароднага эпізаатычнага бюро.

ДАСЛОЎНА



### *Міхаіл РУСЫ, намеснік старшыні Савета міністраў, куратар аграпрамысловага комплексу:*

— Гэта адзін з відаў канкурэнтнай барацьбы. У нашай прадукцыі я адназначна ўпэўнены, нават магу і больш сказаць — абсалютна ўпэўнены...

Каб упэўнена сябе адчуваць на рынках Расійскай Федэрацыі, мы праводзім самакантроль. Адпраўляем прадукцыю ў бліжэйшыя цэнтры — Бранск, Смаленск. Усё добра. На наступным тыдні выпрацуем механізм — гэта павінна быць рэферэнтная лабараторыя, вынікі якой ніхто не аспрэчыць. Пакуль мы павінны даказваць якасць пастаўляемых прадуктаў у адзіночку. Гэта доўгі працэс. Вельмі цяжка пастаянна даказваць, што я не лысы.

### *Сяргей ДАНКВЕРТ, кіраўнік «Россельхознадзора» (з інтэрв’ю РБК):*



**— Вы можаце ацаніць памер кантрабанды забароненай прадукцыі?**

— У нас проста няма такой колькасці людзей, каб правяраць усю прадукцыю, якая ўвозіцца з Беларусі. Мы выставілі пасты на шасці асноўных магістралях, зрабілі зрэз — і зразумелі, што сітуацыя няпростая.

**— Наколькі няпростая?**

— Нашым калегам у Беларусі ёсць над чым працаваць.

**— Удзельнікі рынку ацэньваюць, напрыклад, кантрабанду мяса ў 50% ад усяго рынку. Наколькі гэта блізка да вашых падлікаў?**

— Паводле нашай статыстыкі, гэта прыкладна 10% ад усіх паставак — менавіта такую долю мы не прапускаем. Мяса ўвозіцца альбо праз Пецярбург пад выглядам тавараў прыкрыцця, альбо праз Беларусь; імпарцёры старанна пазбягаюць інспектараў “Россельхознадзора”. Але мы ўсё роўна адлоўліваем — ужо на этапе рэалізацыі. Калі казаць аб дакладных лічбах, то можам сказаць: з ЕС незаконна ўвезена каля 7,5 тысячы тон мяса, якое праходзіла мытню ў Еўропе альбо на нейтральнай паласе. 226 машын прыйшлі з дакументамі з Бразіліі. Беларускія калегі ні адну машыну не выявілі, інакш яны ўбачылі б этыкеткі галандскага і польскага мяса. Па дзіўным збегу абставін яны не запрасілі ні аднаго ветэрынара і прапусцілі ўсе 226 машын у Казахстан. А мы да гэтага часу не можам сказаць, колькі машын у выніку да Казахстана даехала.

**— Па малочных прадуктах колькі выяўляецца кантрабанды?**

— Як такой яе няма, таму што Беларусь павялічыла пастаўкі: яна адпраўляе ў Расію прадукцыю, для якой закупляе таннае малако ў Польшчы, Літве і Латвіі. І мы не супраць — галоўнае, каб малочныя заводы правяралі сыравіну, зрабілі маніторынг па антыбіётыках. Прадпрыемствы, якія там закупляюць еўрапейскае малако, у нас “выскокваюць” па антыбіётыках, і мы пра гэта ўжо папярэджвалі беларускіх калег, але месяц прайшоў, а рэакцыі так і не было. Таму нам давялося зачыніць (так у арыгінале інтэрв’ю. — **Рэд.**) некалькі беларускіх прадпрыемстваў.

Мы стварылі ў Мытным саюзе такія ўмовы, што, калі свае парушаюць, гэта быццам бы і не парушэнні, а калі замежнікі — мы за два выпадкі выяўлення парушэнняў спыняем пастаўкі. Да сваіх ліберальна падыходзім, нават калі прадпрыемства па 20—30 разоў парушала. Пішам лісты, просім праверыць. А нам не адказваюць, на 20 лістоў адзін адказ. Але ўсё мяняецца.

**— А па гародніне і садавіне?**

— Нават не хачу казаць — гэта наогул рээкспарт. Ведаеце, якая прадукцыя зараз больш за ўсё папулярная ў еўрапейскіх кардонных фабрык? Немаркіраваныя скрыні. І мы павінны прааналізаваць, адкуль гэтыя немаркіраваныя скрыні. Мы папрасіліся ў нашых беларускіх калег, каб з імі разам пастаяць на мяжы. Тыдзень-два... Нам адмовілі, спасылаючыся на тое, што ў іх спецыялісты вельмі падрыхтаваныя. Асабліва, як аказалася, па мясе яны падрыхтаваныя. І па гародніне, мабыць, таксама...

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

# *Антикоррупционная Платформа — ответ на вопрос, как уменьшить коррупцию!*

***11 политических и общественно-политических организаций Беларуси (Объединенная гражданская партия, оргкомитет по созданию женской партии “Надзея”, Партия БНФ, оргкомитет по созданию партии “Белорусская христианская демократия”, движение “За свабоду”, оргкомитет по созданию Партии трудящихся, объединение “Наш Дом”, партия “Зеленые”, оргкомитет по созданию партии “Реформы и прогресс”, БСДП, Белорусская партия левых “Справедливый мир”) объединили свои усилия для подготовки Антикоррупционной Платформы (АП).***

***Почему?***

***Потому что эта проблема касается каждого из нас. Коррупция разъедает экономику, обворовывает людей, развращает чиновников, ослабляет страну. Потому что власть, на наш взгляд, не способна минимизировать последствия этого зла. Потому что наши молчание и безразличие приводят к росту коррупции.***

***Но без участия граждан — то есть вас — у нас не получится добиться успеха. Мы предлагаем пошаговый план совместных действий.***

***Шаг первый.*** *Выработка документа.*

***Шаг второй.*** *Народное обсуждение Антикоррупционной Платформы. Мы это делаем не для галочки — все разумные предложения будут учтены и использованы в нашей работе.*

***Шаг третий.*** *Передача документа в структуры и органы власти для практической реализации.*

***Шаг четвертый.*** *Воздействие на власть, чтобы документ стал программой действия, в том числе — через популяризацию АП во время президентской и парламентской кампаний.*

*(Продолжение на 3-й стр.)*

ПАЛІТКУХНЯ

## *У кожнага свая гульня*

*Час “ікс” — 1 снежня — настаў. Але пагадненне аб працэдуры вылучэння адзінага кандадата так і засталося падпісана не ўсімі апазіцыйнымі лідарамі. Аб’яднаная грамадзянская партыя і партыя “Справядлівы свет” да дэмакратычнай большасці не далучыліся.*

Беларускія “левыя” не стануць падпісваць апошні варыянт праекта працэдуры вылучэння адзінага кандыдата ад апазіцыі на будучыя прэзідэнцкія выбары. Крыху раней, напрыканцы мінулага тыдня, пра свой сцэнарый удзелу ў выбарах заявіла і АГП. Калі партыйцы не адумаюцца, то вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты аднаго палітыка ад дэмакратычных сіл краіны робіцца немагчымым.

Нагадаем, што пра падпісанне дакумента аб працэдуры абрання адзінага кандыдата заявілі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), рух “За Свабоду”, кампанія “Гавары праўду!”, Партыя БНФ і аргкамітэт па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя”. АГП збіраецца вылучаць Анатоля Лябедзьку і Мікалая Статкевіча, ініцыятыўная група якога наўрад ці будзе зарэгістравана. Партыя Сяргея Калякіна, мяркуючы па ўсім, будзе працаваць на гэты сцэнарый.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# У цемры

У рэдакцыю прыйшоў ліст ад жыхаркі вёскі Малая Плотніца Пінскага раёна Юліі Сенькавец. Яна напісала пра тое, у якіх умовах вымушаны працаваць яе муж, які выехаў на заробкі ў Рэспубліканскае сельскагаспадарчае ўнітарнае прадпрыемства “Эксперыментальная база “Зазер’е”, што ў Пухавіцкім раёне.

*“Людзі прыехалі сарціраваць бульбу (элітных гатункаў),* — чытаем ліст з Палесся. — *Брыгады па 8—14 чалавек паселены ў інтэрнаце на тэрыторыі прадпрыемства. Літаральна праз два дні пасля засялення ў інтэрнаце цалкам была адключана электрычнасць, ад якой напрамую залежала ацяпленне памяшкання. Людзі ў прамым сэнсе жывуць, нібы ў моргу. Халодна, цёмна, сыра...”*

Шчыра кажучы, прачытаўшы гэты ліст, не паверыў, што падобнае можа здарыцца “ў моцнай і квітнеючай Беларусі”, дзе шалёныя дзяржаўныя грошы ўкладаюцца ў сельскую гаспадарку. Вырашыў: едзем у Зазер’е.

... На месцы рэдакцыйная машына была з самага ранку. Адразу кінулася ў вочы, што ні ў адным з акенцаў двухпавярховага адміністрацыйнага будынка эксперыментальнай базы, нягледзячы на даволі пахмурнае надвор’е, не гарэла святло. Сам будынак нагадваў паўзакінуты сельскі клуб. Асабліва ўражваў выгляд з “непараднага” боку — падрапаныя сцены, абсыпаная тынкоўка...

Да кіраўніцтва гаспадаркі пайшоў не адразу — перш-наперш агледзеўся на мясцовасці.

Адразу за будынкам адміністрацыі — ферма. На вуліцы налічыў некалькі дзясяткаў кароў. Далей — склады для захоўвання бульбы, падобныя на жалезныя ангары. Памяшканні зачынены на замок. Рабочых нідзе не відаць. На мясцовым мехдвары карціна наступная: стаяць трактары, але майстэрні зачынены. У памяшканнях цемра. Зазірнуў праз вокны: ніякіх крыніц электрычнасці не бачна.

*“Няма святла прыкладна тыдні тры,* — прызнаюцца нешматлікія супрацоўнікі, якіх удалося знайсці. — *Кажуць, што электрычнасць адключылі з-за вялікай фінансавай запазычанасці. Ды што мы, мехдвор, калі нават адміністрацыйны будынак сілкуецца электрычнасцю з дапамогай генератара”.*

Адзначу, што на ўездзе ў пасёлак заўважыў: святло ёсць у мясцовых крамах, свецяцца і вокны дамоў жыхароў. Цемра апусцілася толькі на эксперыментальную базу.

...Здаецца, самы час наведацца да дырэктара гаспадаркі **Сяргея Талецкага**.

Заходжу. На першым паверсе адміністрацыйнага будынка даўжэзны калідор. Цёмна, хоць вока выкалі. Іду навобмацак. На другім паверсе па падказцы супрацоўніцы знаходжу прыёмную. Сакратарка скануе нейкія паперы. Калі працуе аргтэхніка — значыць, электрычнасць ёсць. У кабінет дырэктара сакратарка не пускае: “Чакайце”.

Чакаю хвілін 20—25. З кабінета выходзіць Сяргей Валер’евіч і, нават не зірнуўшы вакол, бодрай хадой накіроўваецца з прыёмнай. Даганяю яго на лесвіцы. На размову са сталічным журналістам кіраўнік сельскага прадпрыемства яўна не настроены. Ліст нашай чытачкі хуценька прабег вачыма і літаральна на хаду кінуў два сказы: “*Я вам так скажу: праблема з запазычанасцю і сапраўды існуе, аднак ніводнага наёмнага рабочага зараз у гаспадарцы няма, з усімі разлічыліся і адправілі па дамах. Я ж разумею, што ў такіх умовах не кожны зможа працаваць, таму ўсе раз’ехаліся”.*



Замерзлі людзі, а што будзе з бульбай?

Ні пра агромністую суму запазычанасці за святло, ні пра шляхі вырашэння праблемы Сяргей Талецкі гаварыць не стаў.

Пра жахлівыя ўмовы, у якіх давялося працаваць наёмным работнікам у “Зазер’і”, распавёў Алег Сенькавец — муж нашай чытачкі. Ён ужо прыехаў з заробкаў дадому, яму я патэлефанаваў, вярнуўшыся ў рэдакцыю.

*— Уражанні? Ляжу дома з тэмпературай, вось і ўсе ўражанні. Прыехаў у Пухавіцкі раён 9 лістапада. Думаў зарабіць грошай для сям’і. Паехаць менавіта ў гэтую гаспадарку параіла знаёмая, яна там працавала раней.*

*Нас пасялілі ў інтэрнат. Праз два дні там знікла святло і цяпло. Вечарамі палілі свечкі. На падаконніках вырас слой ільда — на вуліцы ж не май месяц...*

*Хадзіла пагалоска, што ў гэтай гаспадаркі вялікая запазычанасць. Вам, журналістам, там не назвалі канкрэтную лічбу? Бо гаварылі, што пазыка вымяраецца нават не дзясяткамі, а сотнямі мільёнаў рублёў... Але хто гэта можа дакладна ведаць? Карацей, жах!*

*Ды пра што казаць, калі на складах, дзе мы сарціравалі бульбу, было цяплей, чым у інтэрнаце? У сховішчах святло было, там і гатавалі сабе ежу. Хаця, прызнаюся, у такіх умовах нават няшчасная бульба не вытрымлівае. За час майго знаходжання ў “Зазер’і” кіраўніцтва чакала нейкую праверку з Мінска. Нам выдалі два рулоны чорнай поліэтыленавай плёнкі і загадалі падмёрзлую бульбу накрыць. А потым далі зразумець, што ніхто нас тут асабліва не трымае...*

*Чакалі выплаты заробку. Асабіста мне павінны былі заплаціць 4.290.000 рублёў. На рукі атрымаў паўтара мільёна, астатняе паабяцалі выслаць паштовым перадам... Чакаю. Хаця са мной абышліся нармальна. З намі працавалі хлопцы са Столінскага раёна, ім выдалі ўсяго па 200 тысяч на рукі — на білет дадому, астатняе — таксама сказалі, што вышлюць поштай. Пасля таго, што пераўжыў, цвёрда вырашыў — у “Зазер’е” на заробкі ні нагой...*

У якасці рэмаркі, канечне ж, можна было кідаць, здаецца, цалкам заслужаныя папрокі і ў адрас улады, і ў адрас кіраўніцтва эксперыментальнай гаспадаркі, але навошта? Тут і так усё зразумела. Без каментарыяў...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

*Пухавіцкі раён.*



ПРЫНЦЫПОВАЕ ПЫТАННЕ

# Ці пойдуць улады на дэвальвацыю рубля?

***Беларускія ўлады заяўляюць аб тым, што неабходна падтрымаць айчынных экспарцёраў.***

*“Вы бачыце, што адбываецца з нацыянальнымі валютамі Расіі, Украіны, Казахстана. Эканоміка Беларусі патрабуе ад дзяржавы прыняцця рашэння, якое б дазваляла айчынным прадпрыемствам несці найменшыя страты”*, — заявіў намеснік кіраўніка Міністэрства фінансаў Беларусі **Максім Ермаловіч**.

Хоць слова “дэвальвацыя” тут і не прагучала, але некаторыя ўжо ўбачылі ў словах Ермаловіча намёк менавіта на гэта. Магчыма, беларусаў і на самай справе чакае чарговая дэвальвацыя?

*“Я прысутнічаў на канферэнцыі, дзе зрабіў такую заяву намеснік кіраўніка Міністэрства фінансаў Беларусі, але, шчыра кажучы, намёку на дэвальвацыю не пачуў*, — распавядае фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра кампаніі “Альпары” ў Мінску **Вадзім ЇОСУБ.** — *Спадар Ермаловіч проста агучыў план, які апошнія месяцы агучваўся ўжо шмат разоў чыноўнікамі рознага кшталту. Не сакрэт, што ў нашых гандлёвых суседзяў адбылася дэвальвацыя, а гэта стварае для беларускай эканомікі складанасці і трэба нешта вырашаць. Будзе ці не будзе дэвальвацыя ў Беларусі? Гэта на сённяшнім этапе дыскусійнае пытанне ўнутры нашай эканамічнай ўлады, і, уласна кажучы, выбар не вельмі добры — паміж дрэнным рашэннем і вельмі дрэнным. Праблема ў тым, што дэвальвацыя кардынальным чынам не вырашае эканамічных праблем. Будзе нейкая палёгка на нейкі кароткі час. У нас была дэвальвацыя ў 2009 годзе, а праз два гады зноў прыйшлося дэвальваваць нацыянальную валюту. Прайшло яшчэ тры гады — і зноў тое ж пытанне на павестцы дня. У такой форме да дэвальвацыі мы будзем звяртацца кожныя два-тры гады, што толькі вымотвае эканоміку, але нікому карысці не прыносіць”.*

Паводле слоў эксперта, замест дэвальвацыі можна было б перайсці на плаваючы курс.

*“Тады б не прэм’ер-міністр і не кіраўнік Нацбанка думалі, ці патрэбна праводзіць дэвальвацыю, а рынак праз механізмы попыту і прапановы самастойна адказваў бы на пытанне, якім сёння быць валютнаму курсу*, — дадае суразмоўца. — *Зараз жа можна сказаць, што Беларусь уступае ў перадвыбарны год, а гэта дадатковая праблема для нейкіх карысных, але непапулярных рашэнняў”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### ДАРЭЧЫ

*У кастрычніку насельніцтва купіла замежнай валюты на 944,8 млн долараў, прадало 851,1 млн долараў, паведамляе БелаПАН са спасылкай на звесткі Нацыянальнага банка.*

*Такім чынам, у кастрычніку чыстая купля (перавышэнне аб’ёму попыту над прапановай) насельніцтвам замежнай валюты склала 93,7 млн долараў.*

*Варта адзначыць, што ў параўнанні з вераснем купля насельніцтвам замежнай валюты вырасла ў кастрычніку на 82 млн долараў, у той час як аб’ём продажу скараціўся на 45,2 млн долараў.*

*Як вынік, калі ў верасні насельніцтва з’яўлялася чыстым прадаўцом замежнай валюты (прадавала больш, чым купляла), то ў кастрычніку — чыстым пакупніком.*

*Да ліпеня насельніцтва амаль усю першую палову года выступала чыстым пакупніком на валютным рынку — набывала валюты больш, чым прадавала.*

*Зніжэнне попыту на замежную валюту з боку насельніцтва ў летнія месяцы эксперты тлумачылі паступленнем у краіну крэдытных рэсурсаў на падтрыманне золатавалютных рэзерваў, што дазволіла знізіць узровень дэвальвацыйных чаканняў у грамадстве.*

*Нагадаем, у канцы мая пасля падпісання Беларуссю Дагавора аб Еўразійскім эканамічным саюзе Расія выдзеліла краіне крэдыт на 2 млрд долараў.*

*Разам з тым восенню попыт на замежную валюту з боку насельніцтва зноў стаў узрастаць. Як паведамлялася раней, у верасні ў параўнанні са жніўнем попыт насельніцтва на замежную валюту вырас на 75,1 млн долараў, і ў кастрычніку тэндэнцыя павелічэння аб’ёму куплі замежнай валюты фізічнымі асобамі прадоўжылася.*

АКТУАЛИИ

# Не допустить Майдана!

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

**Развивать ход мысли я могу долго. Но направление рассуждений, думаю, уже обозначила.**

**“Не допустить Майдана!” — лозунг, который белорусская оппозиция в предстоящую кампанию может и должна перехватить у власти. Тем более что имеет на это полное право.**

**Теперь — о вопросе лидерства.**

**Очевидного лидера в оппозиции сегодня нет. Такого, который на голову выше других, сильнее, умнее, популярнее. Потому каждый политик на кастинге “единых” может встать на табуретку и заявить: “Выбери меня!” И в чем-то будет прав.**

**Чем Милинкевич сильнее Некляева? Чем Некляев сильнее Лебедько?.. А Калякин? А Северинец? Почему вообще забыли Козулина?.. Не удивительно, что по поводу возможного единого все уже переругались, поскольку ответ — ничем не сильнее.**

**Кто питает надежды на честные президентские выборы? Некляев? Лебедько? Милинкевич?.. Никто. Но зачем-то они хотят быть едиными.**

**Политолог Сергей Николюк как-то очень убедительно объяснил, почему такая острая конкуренция, почему многим оппозиционным деятелям хочется стать “единым”.**

**“Вы знаете мою жену? — спросил Николюк. — Не знаете. Но если она станет единым кандидатом, то будет иметь минимум 30 процентов голосов избирателей”.**

**Таким образом, стремление стать “единым” — это не намерение бороться за власть, не планы составить реальную конкуренцию Александру Лукашенко. Это всего лишь проявление амбиций заявить о себе, стать первым в оппозиции. И не более того.**

**Лично мне ни Некляев, ни Лебедько, ни Милинкевич, ни Калякин, ни Северинец не нравятся в качестве кандидатов в президенты просто потому, что самим присутствием этих фамилий в избирательных бюллетенях создается иллюзия выборов. Но зачем нам обманывать, обманываться да еще и ругаться по этому поводу?**

**Как по мне, так “флагом” будущей кампании лучше всего взять человека известного, авторитетного и, Боже упаси, не имеющего президентских амбиций. Морального авторитета, который олицетворял бы собой мирные, цивилизованные, грамотные, спокойные перемены.**

**Например, условно академика Радима Горецкого.**

**Возможно, совет старейшин: академики Радим Горецкий, Александр Войтович, Анатолий Михайлов, Геннадий Лыч, Нил Гилевич... За спинами которых будет стоять молодая команда. Не предвыборная команда, а команда потенциальных реформаторов, команда переговорщиков. Лукашенко ведь не однажды заявлял, что в Беларуси ему не с кем садиться за “круглый стол”, не с кем договариваться. Потому что оппозиция — малочисленные маргиналы, раздробленные, с процентами электоральной поддержки в рамках статистической погрешности.**

**Да и Запад уже подал сигнал, что не понимает, кто в белорусской оппозиции может быть визави на серьезных переговорах. Директор департамента по вопросам России, “Восточного партнерства”, Центральной Азии, регионального сотрудничества и ОБСЕ Европейской службы внешнего действия ЕС Гуннар Виганд во время последнего визита в Минск ни с кем из оппозиции не встречался. И в чем-то его можно понять: лидеров оппозиции так много, они такие разные, но кого они представляют?**

**Как мне видится, единственная цель будущей избирательной кампании, которой оппозиция может достигнуть, — это дать ответ на вопрос, кто за ней стоит. И Александру Лукашенко, и Европе, и США, и России. Задача (причем выполнимая) — продемонстрировать, что белорусов, желающих своей стране согласия и стабильности, а не конфронтации и революций, — большинство.**

**Что действия той части оппозиции, которая жаждет идти с властью стенка на стенку, и действия власти, направленные на конфронтацию в обществе, не поддерживаются белорусским народом.**

**Что и власти, и оппозиции настало время слушать и слышать друг друга, настало время садиться за один стол и договариваться.**

**Потому что ситуация вокруг Беларуси очень сложная. Искать врагов в своей стране — это худшее, что сегодня можно сделать.**

**Цель и смысл участия оппозиции в президентской кампании есть. Первое: доказать власти, что она должна садиться с оппонентами за стол переговоров, если не хочет допустить Майдана.**

**И второе: показать, с кем конкретно Александр Лукашенко должен сесть за стол переговоров. Потому что мира, а не конфронтации, хочет белорусский народ.**

ПРОБЛЕМА!

# Почему в Минске переплачивают за такси и когда это прекратится



Минские такси — конфликтная зона. По сведениям специалистов, примерно в 10% случаев между водителем и пассажиром возникает спор. Грубое слово, отказ от оплаты или курение в салоне — и, бывает, доходит до рукоприкладства. Но чаще всего конфликт тихий и происходит из-за стоимости поездки, которую озвучивает водитель в конечном пункте. Как избежать таких ситуаций? Узнав об одной такой истории, “Народная Воля” задала этот вопрос специалистам.

Итак, вечер, Национальный аэропорт Минск-2. Группа людей, которая вышла из самолета, решает, как добраться до Минска. Обсуждая вопрос в аэропорту другой страны, пришли к выводу: добраться до дома будет несложно. Кто-то даже уверял, что пуск дизеля по маршруту Минск—Смолевичи—Национальный аэропорт Минск-2 снизил тарифы таксистов. Мол, получив сильных конкурентов в виде маршрутных такси, автобусов и дизельного поезда, те готовы возить пассажиров по таксометру, а не за 450 тысяч, как еще недавно.

Поэтому можно представить себе расстройство приезжих, когда оказалось, что такса за проезд на такси, озвученная каким-то мужчиной, не изменилась — 450 тысяч рублей. Второй таксист снизил ее до 400 тысяч, но и это было дорого.

В Минск можно было уехать на маршрутке (25 тысяч рублей до Уручья), автобусе (35 тысяч до вокзала) и дизеле (25 тысяч рублей до вокзала), однако этого транспорта пришлось бы ожидать около часа. Неожиданно один из членов группы сообщил: знакомый таксист согласился отвезти его домой, до ул. Кольцова, за 350 тысяч рублей и готов взять в 7-местный автомобиль остальных. Прикинув, что на пятерых выйдет недорого, группа села в машину, на бортах которой значилось: диспетчерская служба 7788. Двое собирались выйти на метро “Уручье”, двое поинтересовались, довезет ли их таксист до центра города. Кивнув головой, тот тронулся в путь, ничего нового не сказав ни о стоимости поездки, ни о тарифе. Получалось, что вся поездка входила в названную цену.

Однако, приехав к пункту назначения, таксист попросил доплатить еще 100 тысяч рублей. Пассажиры возмутились, но спорить с водителем не было сил. Попросив чек, один из членов группы связался с руководителем диспетчерской службы 7788 Виктором Пузиковым.

*“Ваш друг попросил знакомого, а не вызвал такси через телефон службы,* — ответил руководитель, выслушав историю. — *Поэтому я не могу быть уверенным даже в том, что это наш водитель. Множество печатных центров готовы изготовить логотипы для оклейки автомобиля такси. Для наших водителей эту работу выполняют по специальному разрешению и в строго определенном месте. Но даже в этом случае гарантии, что наклейки легальны, нет: любой нелегал может заказать точно такую же и ездить с ней, пользуясь нашей репутацией”.*

По данным УП “Столичный транспорт и связь”, год назад в Минске насчитывалось около 8 тысяч автомобилей такси, нелегалов — примерно столько же. Чтобы покрыть потребность горожан, по мнению самих таксистов, достаточно и 5 тысяч автомобилей такси. Почему при такой конкуренции отдельные перевозчики умудряются увеличивать стоимость поездки вдвое?

Отвечая на этот вопрос, председатель профсоюза ППО “Такси “Садружнасць” Наталья Домашевич подчеркнула: *“В стране свободное ценообразование, и любой перевозчик может установить свои тарифы”.* Величина разная — и 5, и 15 тыс. рублей за километр, *“если позволяет класс автомобиля, его техническое состояние и уровень подготовки водителя”.* Уведомив в момент посадки о расценках, таксист имеет полное право требовать оплаты в конце поездки.

Недовольный оказанными услугами клиент пытается пожаловаться в диспетчерскую, позывные которой указаны на борту автомобиля и... стакивается с проблемой.

*“Диспетчер отвечает лишь за правильность передачи заказа,* — объясняет Домашевич, — *ответственность лежит на перевозчике или индивидуальном предпринимателе, в качестве которого зарегистрирован таксист. Если в диспетчерскую поступает жалоба, разбирать ее должен перевозчик”.*

Получается, что позывные диспетчерской службы, указанные на борту автомобиля такси, ничего не значат. Во-первых, таксист, зарегистрированный в качестве ИП, имеет право назвать любой тариф, по которому согласен отвезти клиента (к примеру, не 5 тысяч рублей, как в его диспетчерской, а 10), во-вторых, принадлежность к определенной службе говорит лишь о размере минимального тарифа. Если, к примеру, у такси “Алмаз” 7788 этот тариф составляет 5,5 тысячи рублей по городу, то у такси “Столица” 135 — 5,9 тысячи рублей, а у такси “Пятница” — 6,5 тысячи рублей за километр.

Но в конфликте пассажира и таксиста позывные диспетчерской роли не играют. *“Даже если водитель выполнял заказ, поступивший по короткому номеру, диспетчерская за его действия не отвечает,* — говорит Домашевич. — *Она оказала услугу — передала заказ. Все, что можно сделать, — вынести порицание и только. А также передать жалобу клиента перевозчику или самому таксисту, если он зарегистрирован в качестве ИП”.*

В последнем случае получается, что недовольному клиенту предоставят возможность еще раз поговорить с водителем. Реально ли доказать в этой ситуации свою правоту или конфликт только усугубится?

*“Нужны новые правила игры”*, — говорит Домашевич. Их обсуждение идет давно, но пока безрезультатно — проект законодательных актов об изменениях в сфере перевозок пассажиров автомобилями такси “завис” в коридорах власти, время его появления неизвестно.

Какие законодательные изменения, по мнению специалиста, могут улучшить ситуацию? Домашевич осторожно перечисляет: необходимо ужесточение правил входа на рынок перевозчиков, повышение качества профессиональной подготовки водителей.

Отдельный пункт — введение карты допуска, которая, по планам, заменит лицензию. *“В настоящее время под одной лицензией перевозчика может работать и 5, и 50 машин,* — говорит Домашевич. — *Карта допуска поможет не только установить точное количество легальных такси в городе, но и позволит усилить борьбу с нелегальным извозом. Дополнительная мера — привлечение ГАИ. Эта служба может выделить из потока определенную машину — в дорожном трафике сложно определить, какой автомобиль легальный, а какой нет, — проверить наличие документов, в том числе карты допуска и путевого листа, а также проверить документы у водителей такси, стоящих вдоль бордюров и на стоянках. Это поможет значительно уменьшить количество нелегальных авто в городе”.*

Если же таксист взял клиента “от борта”, даже диспетчерская, позывной которой стоит на автомобиле, не поручится, что этот перевозчик легальный.

Как быть, если на такси надо ехать сейчас?

Вот несколько “правил выживания”, которыми поделились бывалые пассажиры такси и автомобилисты:

1.Добраться до аэропорта на личном автомобиле и оставить его на платной стоянке. Сутки хранения автомобиля стоят 60 тыс. рублей и, если поездка длится 3—4 дня, плата за паркинг меньше, чем за такси. В случае возвращения группы, как в нашем случае, стоимость парковки можно разделить на всех.

2.Помощь друга. Если друг очень хороший — поможет бесплатно и круглосуточно. Но надо быть готовым, что и однажды придется поехать в аэропорт за ним.

3.Вызов такси из города. Звонок нужно сделать, еще находясь в самолете. В этом случае ждать такси не придется — оно успеет приехать, пока пассажир будет проходить пограничный контроль и получать багаж.

4.В Минске уже работают службы такси, готовые осуществить трансфер в аэропорт или забрать пассажира. Тариф стандартный и включает доставку до указанной точки в Минске, а не так, как это произошло в нашей ситуации, когда отсчет новой стоимости начался после доставки заказчика. Заказ можно сделать заранее, даже из-за границы — достаточно знать номер и дату рейса самолета, к которому требуется машина.

**P.S.** А конфликт с водителем, который доставил группу из аэропорта в Минск, разрешился просто: Виктор Пузиков передал телефон пассажира, который сообщил о нарушении, представителю перевозчика, от которого работал таксист. Изучив копию предоставленного чека, тот согласился с нарушением и предложил компенсировать затраты. *“Может, вы хотите, чтобы водитель был наказан?* — поинтересовался мужчина. — *По вашему желанию мы можем даже отстранить его от работы”.*

Но это уже совсем другая история.

**Елена АНКУДО.**

## *Дадатковыя цягнікі на Каляды і Новы год*

На святы будуць прызначаны болей за 70 дадатковых пар цягнікоў міжрэгіянальных ліній.

У першую чаргу гэтыя цягнікі будуць курсіраваць па найбольш запатрабаваных кірунках, паведамляе прэс-цэнтр Беларускай чыгункі.

Такіх кірункаў тры: Мінск—Брэст—Мінск, Мінск—Гомель—Мінск і Мінск—Віцебск—Мінск. Апроч таго, у перыяд святаў дадатковыя цягнікі звяжуць паміж сабой Віцебск і Магілёў, Мінск і Полацк, Мінск і Пінск.

Большая частка з прызначаных дадатковых цягнікоў будзе курсіраваць 24, 25, 30 і 31 снежня — на гэтыя дні чакаецца найвялікшы пасажырапаток. Апроч таго, у саставы цягнікоў, якія ўжо ходзяць па гэтых маршрутах, будуць уключацца дадатковыя вагоны.

## *Былому суддзі пагражае да 15 гадоў турмы*

Сёння ў Вярхоўным судзе пачнецца працэс па крымінальнай справе ў дачыненні да былога намесніка старшыні Ваеннага суда, які абвінавачваецца ў атрыманні хабару. Прэс-служба Вярхоўнага суда не называе прозвішча фігуранта, паведамляецца толькі, што ён абвінавачваецца па ч.3 арт.430 КК, яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 5 да 15 гадоў. Аднак Naviny.by пішуць, што гаворка ідзе пра палкоўніка юстыцыі ў адстаўцы **Юрыя Тузава.** Падрабязнасці справы стануць вядомыя ў ходзе судовых слуханняў, працэс адкрыты.

ДЗІКУНСТВА!

## *16-гадовы школьнік падазраецца ў жорсткім забойстве ўласнай маці*

Трагедыя здарылася ў Жыткавічах. Раённым аддзелам Следчага камітэта распачата крымінальная справа па гэтым факце.

Як паведамілі ў прэс-службе СК, у праваахоўныя органы звярнуўся муж забітай. Следча-аператыўная група, якая прыбыла на месца здарэння, правяла агляд кватэры, падчас якога былі канфіскаваны прылады злачынства, скрываўленае адзенне падазронага і іншыя прадметы, якія маюць доказнае значэнне.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку Жыткавіцкага РАУС на працягу некалькіх гадзін затрымалі непаўналетняга.

Устаноўлена, што 28 лістапада прыкладна ў 15.30 адзінаццацікласнік, знаходзячыся ў кватэры, у ходзе сваркі са сваёй маці нанёс ёй не менш за пяць удараў кухоннай сякеркай па галаве і не менш за дзесяць удараў нажом у вобласць груднай клеткі і брушной паласці. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў 39-гадовая жанчына памерла на месцы здарэння.

Падазроны змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. Ён прызнаўся ў зробленым.

ЗАКУЛІССЕ

# Хто купіў «Баранавічыдрэў»?

*Пару тыдняў таму з’явілася навіна, што ўказам Аляксандра Лукашэнкі акцыі прадпрыемства “Баранавічыдрэў” прададзены СТАА “ЭкаДорыя” (Беларусь). Некаторыя СМІ нават удакладнілі— “невядомаму сумеснаму таварыству з абмежаванай адказнасцю”. Дык хто стаіць за гэтай здзелкай?*

## Кошт пытання

Указ №525 “Аб рэалізацыі інвестыцыйнага праекта адкрытым акцыянерным таварыствам “Баранавічыдрэў” Аляксандр Лукашэнка падпісаў 13 лістапада. Як было паведамлена, 83,8% акцый беларускага прадпрыемства прададзены фірме “ЭкаДорыя” за больш як 86 мільёнаў беларускіх рублёў. Не, гэта не памылка! За 86 мільёнаў рублёў, што азначае — усяго за 8,5 тысячы долараў.

Затое інвестар абавязаны да 15 красавіка 2015 года пагасіць усю наяўную крэдыторскую запазычанасць “Баранавічыдрэва” (а гэта больш за 15 мільярдаў беларускіх рублёў) і да канца 2017 года ўкласці ў яго яшчэ не менш за 8,6 мільёна еўра. Да гэтага ж часу павінны быць створаны вытворчасці па выпуску піламатэрыялаў, міжпакаёвых дзвярэй, гранул паліўных (пелет) з укараненнем высокатэхналагічнага дрэваапрацоўчага абсталявання.

Акрамя таго, інвестар павінен захаваць да 31 снежня 2018 года ў ААТ “Баранавічыдрэў” існуючыя працоўныя месцы, а таксама забяспечыць зарплату не ніжэй сярэднямесячнага ўзроўню па Беларусі.

## З гісторыі пытання

Гэтае прадпрыемства існуе з 1946 года, з’яўляецца адным з самых буйных вытворцаў аконных і дзвярных блокаў. У 1994-м было пераўтворана ў адкрытае акцыянернае таварыства. 48% акцый належала дзяржаве (імі кіравала Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва), 36% — юрыдычным асобам (найбольш буйныя пакеты мелі ЗАТ “Белцяжмаш” і прыватнае прадпрыемства “Іван”), 16% акцый былі ў фізічных асоб.

Яшчэ ў мінулым годзе “Баранавічыдрэў” ледзь не прызналі банкрутам. Саўмін адзначаў, што завод знаходзіцца ў жаласным стане, а рэнтабельнасць продажаў дасягнула мінус 35,7%. У выніку і была пададзена заява аб прызнанні прадпрыемства банкрутам, але 29 кастрычніка 2013 года ў дачыненні да ААТ “Баранавічыдрэў” ўвялі працэдуру санацыі (аздараўлення).

У студзені 2014 года асноўным акцыянерам прадпрыемства стала дзяржава.

Як можна было абанкруціцца на вытворчасці дзвярэй і вокнаў пры тым будаўнічым буме, які назіраўся ў апошнія гады, — гэта тэма патрабуе асобнага вывучэння. Але здарылася тое, што здарылася. Прыватызаванае прадпрыемства было вернута дзяржаве і прададзена ў другі раз.

## Новыя гульцы

Фірма “ЭкаДорыя”, якая набыла велізарны пакет “Баранавічыдрэва”, сапраўды зусім невядомая ў нашай краіне. Хаця на самім прадпрыемстве яе добра ведаюць. Апошнім часам менавіта яна арандавала большую частку “Баранавічыдрэва”.

“ЭкаДорыя” мае шведскія карані. Яе заснавальнік — шведская фірма “Інтэрнейшнл Трэйдзінг”. І тут мы ўжо выходзім на канкрэтную асобу, кіраўніка прадстаўніцтва кампаніі ў Беларусі, чалавека, прозвішча якога называюць сярод беларускіх мільянераў. Знаёмцеся...

Амід НАБІЗАД — беларускі бізнесмен са шведскім грамадзянствам і афганскімі каранямі. У вузкіх бізнес-колах ён асоба вядомая, але не публічная.

*— Я нарадзіўся ў Афганістане. Бацька — вайсковец, мама — настаўніца матэматыкі,* — аднойчы расказаў пра сябе спадар Набізад. — *Класічнае сямейства з сямю дзецьмі. Нямала часу мы правялі ў Маскве, калі бацька атрымліваў там вышэйшую адукацыю. Тата ў мяне быў камуністам, даслужыўся да чыну генерал-маёра. Затым з Афганістана мы эмігрыравалі ў Швецыю. Там я і вырас. У Стакгольме вялікі бацькоўскі дом і мой уласны дом, там вучацца мае дзеці, жывуць усе сваякі... Туды я прыязджаю на святы і выхадныя. Дома ўсе свабодна гавораць на рускай, шведскай, англійскай мовах, а таксама на фарсі — абсалютна інтэрнацыянальная сям’я... Наогул, дом там, дзе чалавеку добра, а не там, дзе ён нарадзіўся. Для мяне асабіста радзіма там, дзе ёсць праца. Так склалася, што апошнія дзесяць гадоў я будую бізнес у Беларусі. Цяпер гэта мой дом і мая родная краіна.*

Да нядаўняга часу Амід Набізад займаўся ў Беларусі нафтахімічным бізнесам у Наваполацку, стварыўшы фірму “БелТытан”.

Пра яго вядома, што на працу ён прымае людзей не старэйшых за 30 гадоў (самому Аміду Набізаду 31 год). І час ад часу любіць нагадаць, што сам зарабіў першы мільён долараў у 16 гадоў. Пра тое, якую адукацыю мае і ці мае яе ўвогуле, спадар Набізад не расказвае. У яго іншая філасофія: *“Як правіла, у людзей, якія зарабляюць вялікія грошы, няма профільнай адукацыі. Тут залатыя медалі і чырвоныя дыпломы зусім не патрэбны. Усе гэтыя акадэмічныя веды, асабліва куча дыпломаў, толькі перашкаджаюць прымаць рашэнні. Таму што шмат ведаў — гэта перш за ўсё страх. А страх у бізнесе — галоўны тормаз”.*




Такім чынам, за “Баранавічыдрэў” бясстрашна бярэцца новы інвестар. Хаця, шчыра кажучы, сакрэт ягонага поспеху ў нашай краіне не зусім зразумелы.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

## Ніл ГІЛЕВІЧ

# У віры быцця

*(Запісы розных гадоў)*



*(Працяг будзе.)*

### *Нібы зніклі крытэрыі...*

Тады, пасля з'ездаў КПСС 1956-га і 1961-га, у душах творцаў ішло вяртанне да асноў сумленнасці. Не будзем ідэалізаваць — і тады многае засмучала, і тады паяўляліся грымасы, і іх бачылі, і ім давалася належная ацэнка. Але ўсё выдатнае ішло і ацэньвалася як выдатнае. Цяпер усё зблыталася і скруцілася ў нейкі хаос, нібы зніклі крытэрыі; на волю выйшла нахрапістае графаманства, перасталі гаварыць праўду, крытыкі наогул не стала — усё забіў страх, трыумф убоства, прымітыву, цынізму...

*2001.*

### *Усе? Не, пакуль што не ўсе...*

12 кастрычніка 2007 года на прэс-канферэнцыі ў Мінску для прадстаўнікоў расійскіх СМІ кіраўнік нашай дзяржавы заявіў: "Национализм — страшное зло. Мы с этим бороться начали давно (...) По моей инициативе из школьной програмы были убраны все националисты, писатели так называемые".

Няўжо ўсе? — моцна здзівіўся я пачутаму. І калі ж гэта адбылося? Выкінулі, колькі гадоў таму, народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча з яго вершаваным раманам "Родныя дзеці". Але каб усіх — не чуў такога. Спытаў у добра дасведчаных. Так, не ўсіх: прэзідэнт вельмі перабольшыў маштаб расправы са злом. У школьнай праграме засталіся самыя вялікія беларускія нацыяналісты: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі... Засталіся Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Іван Мележ... Так што выкінуты не ўсе... Да ўсіх чарга пакуль што не дайшла...

*2007.*

### *Ну дык і правільна гэны паэт сказануў!*

Зайшоў неяк да мяне даўні сябар Яўген Стасевіч і пытае:

— Скажы, калі ласка, як мне гэта зразумець? Спаткаўся на вуліцы з вядомым паэтам і крытыкам, — пазнаёміліся гадоў дзесяць таму, — затрымаліся на хвіліну, і я выпаліў яму на ўсю чыстату адну прэтэнзію. Кажу: "Як гэта вы, прафесійны літаратар, маючы талент і густ, усё яшчэ сцвярджаеце, што Ніл Гілевіч не з'яўляецца аўтарам паэмы "Сказ пра Лысую гару". Чаму вы гэта робіце? Я не веру, што вы насамрэч так думаеце, калі больш чым відавочна, што аўтар — ён". І ведаеш, што мне гэты паэт сказаў? Сказаў такое, што я і ў сне не прысніў бы. Сказаў: "А яму і так надта шмат усяго надавалі, — і званняў, і ўзнагарод, і ўсякіх прэмій, абыдзецца і без славы аўтара "Сказа"..." Я паглядзеў на яго здзіўлена і развітаўся, убачыўшы, што ён не жартам гэта, а зусім сур'ёзна. Што гэта? Як гэта разумець?..

І я адказаў сябру:

— Ну дык і правільна гэны паэт сказануў. Сапраўды, гэта ўжо нахабства. Столькі набраў, нахапаў, нагроб — дык не, мала: дай яму яшчэ і паэму пра Лысую гару. Трэба ж і меру знаць.

Сябар паківаў галавою і цяжка ўздыхнуў.

— Гэта добра, што ты ўспрыняў мой аповед з усмешкай, з іроніяй. Але мне сумна. Калі ў вас, у вашай пісьменніцкай грамадзе такія меркі, такія падыходы, такія маральныя прынцыпы, — то мне вельмі сумна...

*2010.*

### *Усё яшчэ ахвота пацягаць...*

У сувязі з маім днём народзінаў у інтэрнэце ўсплыла старая плётка наконт аўтарства паэмы "Сказ пра Лысую гару". Аказваецца, яшчэ не здохла (плётка), яшчэ сяму-таму ахвота пацягаць яе за хвост.

Лічу ніжэй сваёй чалавечай і пісьменніцкай годнасці аспрэчваць прымітыўныя сцвярджэнні накшталт "а я ні разу на Лысай гары Н.Г. не бачыла — як жа ён можа быць аўтарам?" або: "а баба Ёўга сказала, што аўтар паэмы — дзед Міхед, і я веру бабе"... На такім інтэлектуальна-навуковым узроўні гаварыць пра паэзію — ну выбачайце... Магу толькі выказаць шкадаванне, што Усявышні абдзяліў маіх суддзяў эстэтычным густам, чуццём мовы і стылю. Або — недадаў сумлення, што значна горш за эстэтычную глухату і слепату.

*2014, кастрычнік.*

### *Мая прапанова*

Незалежныя СМІ краіны абнародавалі зварот аргкамітэта па скліканні Усебеларускага кангрэса за незалежнасць. Выдатная ініцыятыва! Але... Але чытаю ў звароце радкі пра самае істотнае:

"Таму мы прапануем склікаць Усебеларускі кангрэс за незалежнасць, каб абмеркаваць сітуацыю і прыняць усе захады для таго, **каб адстаяць Беларусь.**

Мы лічым неабходным абмеркаваць такія **надзённыя пытанні, на якіх грунтуецца наша незалежнасць,** як прыватная ўласнасць на зямлю і іншую дзяржаўную маёмасць, энергетычная бяспека краіны, праблемы правоў чалавека, адукацыі і медыцыны, роля СМІ (як айчынных, так і замежных) у грамадстве, знешняя і ўнутраная палітыка нашай краіны.

Мы чакаем ад Вас канкрэтныя прапановы па правядзенні Кангрэса, яго тэматыцы..."

І так, "надзённыя пытанні, на якіх грунтуецца наша незалежнасць". Усе пералічаныя пытанні, бясспрэчна, вельмі важныя. Аднак самае значнае, самае галоўнае пытанне — не названа, у пераліку няма. У соты раз, выбачайце, мушу заявіць і падкрэсліць: паперадзе ўсіх самых надзённых праблем у нас павінна стаяць праблема выратавання нашай роднай **беларускай мовы**. Калі мы беларусы і хочам "адстаяць Беларусь". Беларусь без беларускай мовы — не Беларусь. Няўжо хто з беларусаў гэтага не разумее? Каму з верных сыноў і дачок нашай роднай зямлі патрэбна *небеларуская* Беларусь? Мне — не патрэбна.

*2014, кастрычнік.*

**БИЗНЕС**

## *Успешные менеджеры могут стать олигархами*

*Наиболее успешным белорусским менеджерам могут передать безвозмездно или по сниженной стоимости акции государственных предприятий.*

Такое положение содержится в проекте Национальной стратегии устойчивого социально-экономического развития Беларуси на период до 2030 года, который вынесен на общественное обсуждение Министерством экономики страны.

В проекте указывается, что на первом этапе (до 2020 года) основной целью реформ будет проведение системной приватизации и переход к управлению госимуществом на рыночных принципах. Для этого необходимы в том числе продажа на открытом рынке части ликвидных компаний с долей государства при условии выгодной конъюнктуры рынка, демонополизация отдельных секторов экономики и системная, прозрачная приватизация, а также реализация пилотных проектов IPO несколькими предприятиями на мировом фондовом рынке.

Кроме того, необходима "передача (безвозмездная либо по сниженной стоимости) наиболее активным и успешным отечественным менеджерам акций государственных предприятий".

**ПРАГНОЗ**

## *Крэмацыя складзе 60% ад усіх формаў пахавання. У свеце*

— Сёння актуальна пытанне аб крэмацыі тых, хто пайшоў з жыцця, — адзначыў у размове з журналістамі намеснік дырэктара сталічнага УП "Спецкамбінат КБА" **Сяргей Тур.** — Яно актыўна абмяркоўвалася яшчэ ў 80-я гады мінулага стагоддзя. Крэмацыя экалагічна больш прымальная, чым пахаванне ў зямлю. Пры гэтым адпадае неабходнасць пошуку новых зямель для будаўніцтва могілак. Здымаецца і такое вострае пытанне, як недагледжаныя магілы. Калі прыняць да ўвагі сусветны вопыт, то, паводле прагнозаў спецыялістаў, у хуткім часе крэмацыя складзе 60% ад усіх формаў пахавання. У любым выпадку права выбару ёсць у кожнага.

У Беларусі першы і адзіны крэматорый адкрыўся ў 1986 годзе. З тых часоў адбылося ўсяго больш за 100 тыс. крэмацый. Што, напэўна, не дзіўна. У Беларусі 90 працэнтаў насельніцтва лічаць сябе хрысціянамі, а ў хрысціянскай рэлігіі закладзена паняцце аб таямнічай сувязі душы памерлага з яго целам.

**АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА**

# Дзіцячая кніга: што маем і што неабходна мець...

*(Гутарка з аўтарамі часопіса "Вясёлка")*




У беларускім прыгожым пісьменстве да падрастаючага пакалення звяртаецца не так ужо і мала аўтараў. Гуртуюцца яны ў асноўным вакол часопіса "Вясёлка". Больш за паўвека гэты часопіс з'яўляецца стрыжнем беларускай дзіцячай літаратуры.

Важнасць вырашэння праблем мастацкага слова для дзяцей абазначаць лішне: дзеці — наша будучыня, і гэтым усё сказана. Таму перад вамі — гутарка з вядомымі пісьменнікамі, якія з'яўляюцца рэгулярнымі аўтарамі часопіса і чые імёны ў кантэксце абазначанай тэмы дадаткова прадстаўляць было б банальнасцю: Уладзімір Ліпскі, Раіса Баравікова, Алена Масла.

І — першае пытанне:

**— Напэўна, часопіс "Вясёлка" як ніякае іншае выданне адчувае, што робіцца ў айчынным літаратурным працэсе з дзіцячай літаратурай. Хоць, у прынцыпе, не сакрэт: сітуацыя пагаршаецца. Але хацелася б канкрэтызаваць — наколькі? (Прычым з абазначэннем родаў і жанраў, а таксама узростаў, на якія скіравана літаратура.)**



**У.Ліпскі:** — У кожным узросце — дашкольнікі, малодшыя школьнікі, падлеткі, юнацтва — успрыманне мастацкай літаратуры рознае. Таму і праблемы тут будуць розныя. І каб іх вырашыць, трэба і дарослым, перадусім пісьменнікам, пазіраць на свет вачыма дзяцей. Але наконт нейкага маштабнага пагаршэння ў сферы нашай літаратуры для дзяцей — так катэгарызаваць нельга.

**А.Масла:** — У дадзенай сітуацыі карэктна гаварыць пра крызіс не літаратуры, а ў кнігавыдавецтве. Было "Юнацтва". Яно займалася непасрэдна выданнямі для дзяцей. Добра было б, каб зменшыўся падатак, як у нашых суседзяў, на кнігадрукаванне для дзяцей (у Расіі 2% на дзіцячую кнігу, ва Украіне зусім адсутнічае падатак, у нас — 20% ПДВ). Такі крок стаў бы стымулам і для прыватных выдаўцоў. Бо што такое дзіцячая кніга? Першнаперш гэта дарагі друк. А ў нас таленавітых людзей вельмі шмат. А колькі бруіцца цікавых ідэй! Цяпер і хапаюцца выдаўцы за дзіцячую літаратуру. Яна і добрая, і нарасхват.

**— Але хіба не знізіўся апошнім часам попыт на літаратуру і на літаратуру беларускамоўную дзіцячую ў прыватнасці?**

**У адзін голас:** Не.

**У.Ліпскі:** — Пра гэта сведчыць вопыт "Вясёлкі". Часопіс не проста выдаецца, але рэгулярна рэпрэзентуе свае анталогіі. Па сутнасці, за апошні час мы далі 6 падручнікаў. Дый 13.000 накладу — лічба гаворыць сама за сябе. Гляньце на Расію, дзе насельніцтва ў 15 разоў больш, а тыражы перыёдыкі меншыя.

**А.Масла:** — Як прадстаўнік выдавецтва сведчу, што дзіцячыя кніжкі выходзяць па 2—3 тысячы — і ўмомант разыходзяцца. Ёсць кнігі, якія не паспяваем давезці да распаўсюджвальнікаў.

**Р.Баравікова:** — У якасці прыкладу падкіну феномен распаўсюджвання кніг калегі — Алены Масла. А які папулярны цыкл кніг Генадзя Аўласенкі пра Ветрыка з вентылятара! Дый мае "Казкі астранаўта", выдадзеныя ў серыі "Школьная бібліятэка" 17-тысячным тыражом (2009 г.), знайшлі свайго чытача. Дзеці яшчэ пачалі прасіць. Алесь Карлюкевіч пайшоў насустрач — і яшчэ дадрукаваў колькі тысяч. Такога попыту нідзе няма!

**У.Ліпскі:** — Праўда-праўда, дзіцячую літаратуру як моду пачынаюць разрываць усе выдавецтвы. І ўсё-такі трэба мець і адпаведны цэнтр, якім было "Юнацтва" (пры ўмове, што дзяржава зацікаўлена ў выхаванні сваіх будучых грамадзян). А вакол такога выдавецтва можна было б стварыць цэлую інфраструктуру: з дзіцячымі гарадком, кавярнямі, дзе дзеці адпачывалі б, дзе праводзіліся б іх сустрэчы з творчымі людзьмі.

**Р.Баравікова:** — Улічыце, што пакаленне, чыё дзяцінства прыпала на беларусізацыю 1990-х, само пачало выхоўваць дзетак. І, як я з радасцю бачу на кніжных выставах-кірмашах, маладыя бацькі масава і апантана далучаюць сваіх наступнікаў да беларускага мастацкага слова. Прычым шукаюць чытанкі для самых маленькіх. Адсюль у нас узнікла ідэя пры "Вясёлцы" выдаваць яшчэ і "Бусю" — менавіта для дашкольнікаў. А ў "Мастацкай літаратуры" Алена Сцяпанаўна зрабіла серыю "Нашым дзеткам" — для самых маленькіх. Яшчэ скажу: укладанне грошай у дзіцячую кнігу - справа вельмі добрая, бо яна плённа служыць некалькім пакаленням.

**— А што вы скажаце, дарэчы, канкрэтней па аспектах узроставай дыферэнцыяцыі?**

**У.Ліпскі:** — Мяркую, што ў беларускай літаратуры назапасілася дастаткова матэрыялу для любога ўзросту. Прынамсі вопытныя выхавацелі і настаўнікі яго маюць. Наш часопіс "закрывае" дашкольны і малодшы школьны ўзрост. Мы рыхтуем чытачоў для далейшага чытання. Але... Дзе "Бярозка"? Што чытаць падлеткам? Правал. Утвараецца ніша. Падлеткам мы неяк замала надаем увагі. У свой час крыху падобнае было. Але што зрабілі нашы класікі? М.Лынькоў напісаў "Міколку-паравоза". К.Чорны — "Насцечку". Я.Маўр — "Палескіх рабінзонаў"... Яны адчулі. Можа быць, ёсць тут і наша віна. Трэба пісаць, ісці да дзяцей (не скажу, што гэтага няма, але — недастаткова!).



**Р.Баравікова:** — Для падлеткаў таксама маем што чытаць: "Тры талеры" А.Федарэнкі, "Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца" А.Бадака, творы Наварыча, Гапеева, Ліпскага... Творы ёсць. Адно іх трэба выдаваць. А тут і праблема знікнення "Бярозкі" бачыцца: часопіс лепей выдаваць ёмістым альманахам, бо ў тое танклявае выданне аповесці не памесцяцца.



**А.Масла:** — Праблема "Бярозкі" мне бачыцца па-іншаму. Цяпер стала модна аб'ядноўвацца ў холдынгі, усіх зграбаць пад адну страху. Пакуль жыве асобным калектывам "Вясёлка", яна жыве. Таму што тут выпадковых людзей няма. Няма выпадковых дзіцячых пісьменнікаў, мастакоў. Наступныя словы тычацца і "Вясёлкі", і "Бярозкі", і выдавецтва "Юнацтва": такія ўстановы аб'ядноўваюць людзей, якія не развучыліся быць дзецьмі. А цяпер пачынаюць кіравацца выгадай, а не душой. Сітуацыя змянілася: калектыў перастаў самастойна дзейнічаць (*пра "Бярозку". —* **А.Т.**).

**— Якія шляхі бачацца для развіцця дзіцячай літаратуры? Інакш кажучы, што трэба рабіць усім, хто ў гэтым зацікаўлены — і дзяржаве, і канкрэтным людзям?**

**Р.Баравікова:** — Пад ляжачы камень вада не цячэ. Па ініцыятыве Уладзіміра Сцяпанавіча два гады працягвалася кампанія "Чытаем разам — чытаем па-беларуску". Колькі мы праездзілі па краіне!

**А.Масла:** — Чытаюць тое, што да іх прыходзіць у рукі, тых, хто прыходзіць сам да чытача.

**Р.Баравікова:** — Зразумела, зніжэнне падаткаў. Наша дзіцячая кніга — самая дарагая сярод кніг суседзяў.

**А.Масла:** — А наклады самыя малыя. Дарэчы, на імя прэзідэнта ўжо пададзены афіцыйны ліст наконт гэтай праблемы. Чакаем рашэння.

**У.Ліпскі:** — Трэба сказаць і пра тое, што ганарары дзіцячых пісьменнікаў у нас самыя малыя.

**А.Масла:** — Сапраўды! Дзіцячая кніга не можа быць без ілюстрацый. А за такія капеечныя ганарары, якія маем цяпер, сур'ёзны мастак не возьмецца афармляць выданне.

**Р.Баравікова:** — Пісьменнікам плацяць па старым палажэнні. Калі яшчэ гады тры таму мільён-другі за дзіцячую кнігу у аркушаў пяць хоць нешта важыў, то што цяпер?

**У.Ліпскі:** — Яшчэ адзін шлях развіцця: пашырэнне жанраў. Звычайна абмяжоўваюцца чыста мастацка-літаратурным колам. А я, прыйшоў 35 гадоў таму ў "Вясёлку" і прыжывіў жанр публіцыстыкі. Мы пачалі праводзіць сустрэчы — урокі "Вясёлкі". Увялі рубрыкі "Наша спадчына", "Я тут жыву", "Дзецям пра Беларусь". Мы ў даўгу перад дзецьмі на ніве гэтага жанру. Гэты доўг стараюся сплаціць: нядаўна выдаў кніжку "Вясёлка над Нёманам" — пра Гродзенскую вобласць, пра кожны яе раён. Такое выданне я падрыхтаваў і па Гомельскай вобласці. Агітую Раісу Андрэеўну, каб яна зрабіла кнігу па сваёй Брэстчыне, а Алену Сцяпанаўну — па Віцебскай вобласці. Далей можна было б на раёны перайсці. Французы выдаюць для дзяцей штогод па сто кніжак па гісторыі. Там апісаны кожны камень, кожнае дрэва, кожнае скрыжаванне. Давайце тут папрацуем! Дзеці будуць ведаць сваю зямлю, палюбяць яе, стануць сапраўднымі грамадзянамі.

**А.Масла:** — Крытыкі малавата па дзіцячай літаратуры. Наўскідак назаву Ладу Алейнік і Аксану Бязлепкіну. Але не з усім я згодная. У мяне ўражанне, што крытыкі шукаюць нейкі ідэальны твор, які вырашыць усе існыя нашы праблемы ў дзіцячай літаратуры. У ідэал узводзіцца Астрыд Ліндгрэн. Але нам патрэбна захоўваць нацыянальную спецыфіку. Менавіта такія кнігі карыстаюцца найбольшай папулярнасцю. Вазьміце казкі Ігара Кузьмініча, Сержука Вітушкі. Там у гульнявой форме расказваецца пра нашу гісторыю і культуру. Чаму Карэла Чапека не крытыкуюць, што яго героі вандруюць па рэальнай Чэхіі? І нам, маладой краіне, такая літаратура суперпатрэбная. А крытыкам неабходна ўлічваць і ўзроставую спецыфіку: не трэба на кнігу для 5-гадовых дзяцей глядзець вачыма 12-гадовага чалавека.

**— Не будзем, аднак, плакацца. Беларуская дзіцячая літаратура моцная, высокамастацкая. Была і ёсць. Вось што вы скажаце пра гэтае "ёсць": аўтары, творы, можа, яшчэ што?**

**У.Ліпскі:** — Толькі за мінулы год у "Вясёлцы" надрукаваліся 7 дзясяткаў чалавек: і маладыя, і вопытныя, і школьнікі, і сталыя. Такое багацце штурхае нас (можа, я зараз выдам нейкі сакрэт) неўзабаве выдаваць бібліятэку "Вясёлкі". Пагартайце часопіс — убачыце адказ на пытанне, прынамсі значную яго частку. Для падлеткавага ўзросту я асабіста параіў бы Андрэя Федарэнку. У яго сваё бачанне свету, свая душа. Для маленькіх магу назваць многа-многа аўтараў. Перадусім сваіх калег па інтэрв'ю. А таксама: Ніна Галіноўская, Уладзімір Мацвеенка, Анатоль Бутэвіч хораша піша казкі, прычым сацыяльна значныя, Мікола Чарняўскі, Мікола Маляўка, Віктар Гардзей, Казімір Камейша, Уладзімір Карызна, Анатоль Зэкаў, Мікола Захаранка, Валерый Гапееў, бацька і сын Бензерукі. Тут называюцца і паэты, і празаікі. Часам пісьменнік не лічыцца дзіцячым, але піша і для дзяцей (Алесь Карлюкевіч).

**Р.Баравікова і А.Масла** дадаюць: — Алесь Бадак, Генадзь Аўласенка, Людміла Рублеўская, Пятро Васючэнка, Наталля Бучынская. Адзначым "Чырвоныя кнігі" Бадака і Гардзея. Вельмі адметныя выданні, унікальныя. Нават боязна каго-небудзь не згадаць, бо шмат вартых увагі.

**— Не сакрэт, што моладзь не надта ідзе на дзіцячую літаратурную дзялянку. Мне, прынамсі, адразу ўспамінаецца толькі імя Веры Жыбуль. Каго б вылучылі вы?**

**У.Ліпскі:** — Імён шмат. Алесь Бараноўскі піша вершы, яму гадоў 25. Ён у "Вясёлцы" вядзе сайт. Мы маладых заахвочваем, стымулюем і прыручаем *(усміхаецца).*

**А.Масла і Р.Баравікова:** — Серж Мінскевіч, Андрэй Хадановіч, Арцём Кавалеўскі, Аксана Спрынчан...

**— Так, у кожнай плыні ёсць свае зоркі. Літаратурны працэс, як жыццё. Хіба ён можа перарвацца?**

**Анатоль ТРАФІМЧЫК.**

**ЧУЛІ?**

## *Суд ацаніў жыццё чалавека ў 50 мільёнаў рублёў*

Магілёўскі абласны суд павялічыў суму кампенсацыі за смерць незалежнага журналіста Вадзіма Аршынскага. У кастрычніку раённы суд прызначыў за яго смерць кампенсацыю 30 мільёнаў рублёў, хаця ягоны сын ацаніў маральны ўрон за смерць бацькі ў 500 мільёнаў рублёў. Аднак абласны суд суму кампенсацыі павялічыў толькі да 50 мільёнаў рублёў.

Відэааператар тэлеканала "Белсат" Вадзім Аршынскі трагічна загінуў 2 лютага 2010 года. Ён уваходзіў у пад'езд свайго дома, калі на яго абрынуўся драўляны навес. Мужчына атрымаў цяжкія траўмы і памёр па дарозе ў бальніцу. Следчыя высветлілі, што навес абрынуўся ад вялікай масы снегу. ЖЭУ Ленінскага раёна толькі часткова прызнала сваю віну, і толькі некалькі магілёўскіх чыноўнікаў за гэтае здарэнне атрымалі вымовы.

Сын загінуўшага Міхаіл Аршынскі мае намер у бліжэйшы час абскардзіць рашэнне абласнога суда.

**КАРУПЦЫЯ**

# Даездзіўся

*Былы намеснік старшыні Быхаўскага райвыканкама атрымаў 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Пра гэта паведаміла прэс-служба Вярхоўнага суда.*

*"Судом Чавускага раёна вынесены прыгавор па крымінальнай справе па абвінавачванні былога намесніка старшыні Быхаўскага райвыканкама ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч.3 арт.426 КК Рэспублікі Беларусь. Абвінавачаны* ***Ігар Скалуба*** *прызнаны вінаватым у наўмысным здзяйсненні службовай асобай дзеянняў, якія відавочна выходзяць за межы правоў і паўнамоцтваў, дадзеных яму па службе, якія пацягнулі прычыненне істотнай шкоды правам і законным інтарэсам грамадзян, дзяржаўным і грамадскім інтарэсам (перавышэнні ўлады або службовых паўнамоцтваў), які быў здзейснены з карыслівай і іншай асабістай зацікаўленасці, асобай, якая займае адказнае становішча",* — гаворыцца ў паведамленні.

Судом абвінавачанаму прызначана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 5 гадоў з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем функцый прадстаўніка ўлады, тэрмінам на 5 гадоў. Пры гэтым год пакарання "спісалі" па амністыі. Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны ва ўстаноўленым законам парадку.

Нагадаем, што год таму, калі крымінальная справа была толькі ўзбуджана, старшы памочнік пракурора вобласці **Ала Кузняцова** распавяла, што падставай стаў аўтаскандал. *"Службовая асоба на працягу доўгага часу ў асабістых мэтах незаконна выкарыстоўвала службовы аўтамабіль іншай арганізацыі, якая знаходзілася ў яго падначаленні ў сувязі з займаемай пасадай. Пазней, кіруючы гэтым аўтамабілем, дадзены грамадзянін здзейсніў ДТЗ, у выніку якога аўтамабіль атрымаў значныя механічныя пашкоджанні. Жадаючы пазбегнуць матэрыяльных затрат на аднаўленчыя рамонтныя работы, намеснік старшыні райвыканкама даў незаконныя ўказанні аб аплаце рамонтных работ за кошт арганізацыі, на балансе якой знаходзіўся аўтамабіль. У выніку дадзеная арганізацыя панесла неабгрунтаваныя выдаткі па аплаце паслуг аўтарамонтнай майстэрні",* — расказала Ала Кузняцова.

**ПРЯМАЯ РЕЧЬ**

## *Кардиолог должен выписать больному 24—36 рецептов!*

*Депутат* ***Зинаида Мандровская*** *о новом постановлении Минздрава, касающемся отпуска лекарств по рецептам:*

*— Не знаю, насколько это постановление позволяет избавить людей от самолечения, но мы загрузили врачей! Можете представить: врач-кардиолог должен выписать больному на 6 месяцев 4—6 препаратов. Это 24—36 рецептов! У него же нет никаких инструментов — он пишет вручную и клянет все на свете! Это просто несерьезно — такое дорогое время у врачей отнимать на выписку рецептов. Где в мире такое есть?!*

**СКАНДАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ**

## *Што чакае Каліну Вардомскую — штраф, папраўчыя работы ці арышт?*



Пра тое, як тэлевядучая Каліна Вардомская ўчыніла бойку падчас канфлікту паміж аўтаўладальнікамі ў адным з мінскіх двароў, "Народная Воля" расказвала сваім чытачам. Паведамлялася і аб тым, што пацярпелай давялося прайсці курс лячэння пасля дыягназу "закрытая чэрапна-мазгавая траўма".

Днямі стала вядома, якія высновы зрабілі следчыя УУС Фрунзенскага раёна сталіцы: *"...дзеянні грамадзянкі Вардомскай неабходна кваліфікаваць як наўмыснае прычыненне лёгкага цялеснага пашкоджання, якое пацягнула за сабой кароткачасовае расстройства здароўя або нязначную страту працаздольнасці".*

Як сказаў муж пацярпелай Дзмітрый, хутчэй за ўсё, Вольга будзе звяртацца ў суд. Калі ён пагодзіцца з высновамі следства, то Каліну Вардомскую могуць чакаць штраф, папраўчыя работы тэрмінам на год або арышт на тры месяцы.

**Галіна КУДРАВЕЦ.**

СТОП-КАДР

# «У сузор'і Стральца»

***Вядомы трэнер Уладзімір Курнеў распавёў "Народнай Волі", як ён працаваў футбольным экспертам падчас здымак фільма аб легендарным савецкім футбалісце Эдуардзе Стральцове.***

Асоба Эдуарда Стральцова наколькі легендарная, настолькі і трагічная. Яго называюць адным з лепшых савецкіх футбалістаў за ўсю гісторыю футбола. У 17 гадоў ён дэбютаваў у зборнай Саюза, забіўшы ў першых двух матчах па тры галы. У 18 гадоў стаў лепшым бамбардзірам першынства СССР, у 19 — алімпійскім чэмпіёнам.

У 21 год Эдуард Стральцоў мог стаць зоркай чэмпіянату свету 1958 года. А замест гэтага — арышт і сем гадоў зняволення.

Вядома, што перад смерцю (а памёр ён у 1990 годзе, у 53-гадовым узросце, ад раку лёгкіх) у размове з сынам Ігарам Эдуард Стральцоў сказаў: *"Аднаго не разумею — за што мяне пасадзілі?"* Ён атрымаў 12 гадоў строгага рэжыму за згвалтаванне. Адседзеў сем. Адны лічылі, што Стральцоў стаў ахвярай прапагандысцкай інтрыгі — дэманстрацыі барацьбы за чысціню маральнага аблічча савецкага чалавека і атрымаў сваё за разгульнае жыццё. Іншыя — што да гэтага мела дачыненне на той час міністр культуры Кацярына Фурцава, з дачкой якой футбаліст не захацеў сустракацца...

У 28 гадоў Эдуард Стральцоў вярнуўся ў футбол і нават быў прызнаны лепшым футбалістам СССР 1967 і 1968 гадоў. Ён мог згуляць на трох чэмпіянатах свету і трох чэмпіянатах Еўропы. Але не згуляў ні на адным. Лёс яго ўзнёс і кінуў аб зямлю...

У Мінску праходзілі здымкі беларуска-расійскага праекта — фільма пра Эдуарда Стральцова, які называецца "У сузор'і Стральца". Некаторыя мяркуюць, што карціна можа паспаборнічаць з карцінай "Легенда №17" пра Валерыя Харламава, у адрас якога, да слова, прагучала шмат як пазітыўных водгукаў, так і крытыкі.


Здымаецца кіно…

Вядомы беларускі трэнер **Уладзімір КУРНЕЎ**, якога запрасілі падчас здымак працаваць футбольным экспертам, распавядае пра свой дэбют у кіно.

— Я ўпершыню займаюся футбольнымі кансультацыямі ў кінематографе, таму абсалютна ўсё было цікава, — распавядае ён. — Але наша місія ўжо закончылася, усе кадры, якія неабходна было зняць, знялі.

**— У фільме здымаліся, наколькі вядома, і прафесійныя беларускія футбалісты…**

— Так, бралі ўдзел хлопцы з каманд першай і другой лігі — з мазырскай "Славіі", "Іслачы", "Рэчыцы", з "Зоркі-БДУ"... Дублёрам Стральцова быў наш Валодзя Макоўскі. Калі замест акцёра трэба было выканаць некаторыя складаныя футбольныя элементы, ён гэтым якраз і займаўся. Калі нешта не атрымлівалася ў Валодзі, то яго замяняў брат Міхаіл. Так што ў фільме быў і дублёр Стральцова, і дублёр яго дублёра. Дарэчы, і сам расійскі акцёр Дзмітрый Уласкін, які выконвае ролю Эдуарда Стральцова, добра навучыўся гуляць у футбол.


Уладзімір Курнеў.

**— Складана было сучасным футбалістам, скажам так, прыстасавацца пад тэхніку сапраўднага Эдуарда Стральцова?**

— Здымаліся нейкія агульныя моманты і камбінацыі — толькі Стральцова "бралі" буйным планам. Напрыклад, абгуляў саперніка — аддаў пас, абгуляў — забівае... На мінскім стадыёне "Дынама", дарэчы, працавалі 8 дзён. Здымалі міжнародныя матчы зборнай СССР, гульні маскоўскага "Тарпеда" ў першынстве Саюза.

**— А які футбол для вас больш цікавы: сучасны ці той, што быў у часы Стральцова?**

— Разумееце, раней жа якія асобы былі! Стральцоў, Варонін, Іваноў, Яшын... Тады і народ хадзіў на стадыёны, каб паглядзець на куміраў. І месца вольнага на стадыёнах не было, не тое што зараз. Але казаць, што раней было ўсё проста цудоўна, а зараз усё дрэнна, таксама нельга. Абсалютна розныя часы. У кожнай эпохі свой футбол. А калі ты ўсё жыццё ў футболе, ён табе заўсёды цікавы.

**— Вам ніякай ролі ў фільме не прызначылі?**

— Не, нічога не знайшлося. Праўда, калі здымалі гульню на зоне (здымкі праходзілі на птушкафабрыцы імя Крупскай), на мяне апранулі лагерную целагрэйку. Сфатаграфаваўся і ў нейкім сэнсе патрапіў у гісторыю.

**— Калі фільм з'явіцца на экранах?**

— Не выключана, што ўжо вясной наступнага года.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



БІЯТЛОН

## Домрачава пачынае барацьбу за Вялікі хрустальны глобус

*У нядзелю ў шведскім Эстэрсундзе змешанай эстафетай адкрыўся розыгрыш Кубка свету 2014/2015 па біятлоне.*

Зборная Беларусі заняла ў эстафеце 11-е месца. Але нашы погляды, безумоўна, былі скіраваны на Дар'ю Домрачаву. У якой форме падышла да цяперашняга сезона трохразовая алімпійская чэмпіёнка? Ці з першага старта ўключыцца ў барацьбу за Вялікі хрустальны глобус — адзіны трафей, які пакуль адсутнічае ў калекцыі Дашы?

Першая гонка паказала, што Домрачава ў выдатнай форме. Беларуска бегла па трасе, як ракета, ідэальнай была і яе стральба.

На этапе кубка свету ў Эстэрсундзе адбудзецца яшчэ шэсць гонак, і ўжо сёння — індывідуальная гонка ў мужчын.

Будзем перажываць за нашых.



**3 снежня, 19.15.** Індывідуальная гонка (мужчыны, 20 км).
**4 снежня, 19.15.** Індывідуальная гонка (жанчыны, 15 км).
**6 снежня, 13.30.** Спрынт (мужчыны, 10 км).
**6 снежня, 16.45.** Спрынт (жанчыны, 7,5 км).
**7 снежня, 13.00.** Гонка пераследу (мужчыны, 12,5 км).
**7 снежня, 15.30.** Гонка пераследу (жанчыны, 10 км).

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПРЕМЬЕРА

*Борис ЛУЦЕНКО:*

# «Я ставил спектакль об истинном значении слова «люблю»

"Где-то на земном шаре встретились мужчина и женщина. Между ними ничего нет. Только слова. И карточная игра. Карты — грех? Пустая забава? Единственная возможность ощутить себя живым? Телефонный звонок. Это тот единственный, кого ты хочешь услышать? Или опять ошиблись номером? Слова... Возможно ли только словами удержать человека от рокового шага? А если эти слова — молитва? История спасения жизни человека? Невозможное чудо веры? Или... обретение истинной любви?"

В Академическом театре имени М.Горького — премьера. На малой сцене новый спектакль "Он и Она". Авторы — В.Орлов и Я.Робис. В спектакле всего два действующих лица. **Его** играет народный артист Борис Луценко. **Ее** — народная артистка Белла Масумян. Дуэт блестящий! Хотя работают талантливые исполнители в совершенно разных манерах. Она, Елизавета, "но не королева английская" (как иронично уточняется в программке) — по Станиславскому: максимально сосредоточена на образе. Он, Вильям, "но не Шекспир" — по Брехту: часто выходит из образа, обращается к залу, требует аплодисментов, апеллирует то к женской, то к мужской аудитории.

Сильные впечатления от камерного спектакля (в театре он идет на Малой сцене) породили вопросы к режиссеру, он же исполнитель главной роли (для Бориса Ивановича, уточним, этот спектакль своего рода дебют, на сцену НАДТ им.Горького в качестве актера он выходит впервые).

**— Борис Иванович, театральные стены слышали, как, выходя после репетиций, вы не раз восклицали в сердцах: "Нет, как режиссер я просто уволю этого актера!" Я оценила юмор. Почему вы сами взялись исполнять главную роль?**

— На моем 75-летнем юбилее режиссер Григолюнас предложил мне прочитать монолог Ричарда III. Я сначала перепугался, потом вспомнил, что 50 лет назад начинал в Сызрани актером, и рискнул. И меня так поздравляли, так хвалили, что я зазнался... А если серьезно, то после того, как Ростислав Иванович Янковский от роли отказался, я за нее взялся потому, что эта пьеса про меня, про мое обретение веры.

**— В театре любой секрет — это секрет полишинеля, и все знают, что автор пьесы Я.Робис — это тоже вы, это ваш псевдоним. Зачем вы скрылись за ним от публики?**

— Чтобы не считали, что я и швец, и жнец, и на дуде игрец.

**— А почему он такой… "португальский?**

— Никакой он не португальский. Роб-ис — это анаграмма имени Бор-ис. Правда, одну очень ученую даму я разыграл. Спросил: "Вы читали другие пьесы Робиса?" И она ответила, что, конечно же, читала...

**— Вы в спектакле цитируете из "Макбета": "Жизнь — это повесть, которую пересказал дурак. В ней много слов и страсти, нет лишь смысла…" Это ваше убеждение?**

— Слова эти произносит мой герой Вильям, который потерял веру и не хочет жить. Это и о моей жизни... И это история о неверующем человеке, который начинает понимать, как помогает вера. Елизавета впервые играет в джин, а Он по этой карточной игре чемпион. По идее Она должна моментально проиграть. Но истово призывает на помощь Всевышнего и всякий раз выигрывает. Потому что на кону жизнь Вильяма. Он ведь решил: как только выиграет, тут же пустит себе пулю в лоб. Вильям хочет умереть. Но вдруг понимает: как это дорого, когда тебя спасают... Я ставил спектакль об истинном значении слова "люблю".

**— В конце спектакля ваши герои идут навстречу друг другу со словами: "Я тебя люблю!" А что они означают для вас?**

— В конце Он требует: "Скажи "Я тебя люблю!", чтобы вся Земля, чтобы вся Вселенная услышала". В нашей программе мы напечатали стихи И.Горбунова-Посадова: "Нам жизнь дана, чтобы любить, любить без меры, без предела, и всем страдальцам посвятить свой разум, кровь свою и тело".

Меня удручает, что каждый хочет властвовать над себе подобными. Я полагаю, что людей надо лечить не от ненависти, а от отсутствия любви. Без любви планета наша рухнет. Самоуничтожится. Вот об этом я и поставил свой спектакль. По-моему, такой спектакль нужен людям. Ведь когда после финала я предложил зрителям остаться и обсудить увиденное, ни один человек не покинул зал.

**— А вам самому что интереснее — существовать в образе или обращаться к залу?**

— Выходить из образа и вовлекать зрителя в предлагаемые обстоятельства. Обретя веру, я стал совсем другим человеком. Когда я пришел в Русский театр, я был жестким и даже жестоким... Хотя сумел сделать европейский театр.

**— А если бы вы были тогда добреньким, разве бы это получилось?**

— Да тут прямо по "Макбету": "Добро есть зло!"

**— Вы преподаете в Академии?**

— Снова преподаю, я педагог на курсе у Сергея Ковальчика, за что ему очень благодарен. Полагаю, что у меня уже есть некая своя манера преподавания. У всех на слуху фамилия моей выпускницы Екатерины Аверковой. Мои бывшие студенты работают в нашем оперном театре, ставят спектакли в Германии.

И есть у меня заветная мечта: создать свой "Театр под куполами". Если получится, значит, выполню свое предназначение.

**Мая ГОРЕЦКАЯ.**

**P.S.** По итогам Третьего республиканского конкурса театрального искусства "Национальная театральная премия", итоги которого были подведены 30 ноября, в номинации "Лучший спектакль театра драмы" победил "Оракул?.." режиссера-постановщика **Бориса Ивановича ЛУЦЕНКО.** Редакция поздравляет мастера с новой наградой!



# Калядны пост:

## меню на кожны дзень

***У пятніцу 28 лістапада ў праваслаўных хрысціян пачаўся Калядны пост. Ён будзе доўжыцца 40 дзён, да 6 студзеня 2015 года, і завершыцца святам Божага Нараджэння 7 студзеня.***

Многія цікавяцца, што можна і што нельга есці ў Калядны пост.

Адзначым, што Калядны пост не такі строгі, як Вялікі пост і Успенскі пост. **У панядзелак, сераду і пятніцу** трэба харчавацца расліннай ежай без алею, а ў **аўторак і чацвер** — з алеем. **У суботу і нядзелю** аж да 2 студзеня ў меню дадаецца рыба. Таксама Калядны пост адрозніваецца тым, што па выхадных дазваляецца піць віно.

Акрамя таго, рыбу можна есці і ў асаблівыя даты — вялікія святы, якія прыпадаюць на час Каляднага посту 2014 года. Гэта Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы (4 снежня), дзень Свяціцеля Мікалая Цудатворца (19 снежня), а таксама ў дні памяці некаторых святых — апостала Андрэя Першазванага (13 снежня) і князя Аляксандра Неўскага (6 снежня).

Паводле традыцыі, меню Каляднага посту цалкам выключае мяса, малочныя прадукты і яйкі. Строгасць посту ўзмацняецца ў апошні тыдзень перад Калядамі, максімальна строгі пост прыпадае на Куццю — 6 студзеня. У гэты дзень праваслаўныя наогул не прымаюць ежу аж да надыходу цемры, або да з'яўлення на небе першай зоркі — сімвала Віфлеемскай зоркі, якая абвясціла прыход у свет Збаўцы людзей.

**Пост дазваляе:**
— крупы,
— гародніну ў любым выглядзе, зеляніну,
— ягады, садавіну і сухафрукты,
— грыбы,
— арэхі,
— алей.

**Пост забараняе:**
— мяса і любыя мясныя стравы,
— сметанковае масла,
— яйкі,
— малако і сыр,
— спіртное.





В НОМЕР!

# Врата памяти в Тростенце

*Лагерь смерти "Тростенец" стал одним из символов фашистского геноцида: во время войны там было уничтожено свыше 206 тысяч человек (по числу жертв это четвертый концлагерь в Европе и первый на просторах бывшего СССР). Летом этого года* ***Александр Лукашенко*** *заложил в Тростенце памятную капсулу на месте будущего мемориального комплекса.*

Комплекс будет создаваться несколько лет, но уже к весне 2015-го планируется обустроить территорию. А в мае откроются Врата памяти — большое мемориальное сооружение высотой 10 метров. На трех его плоскостях должны быть представлены сцены, которые расскажут о жизни лагеря.

Как отметил вчера на пресс-конференции **Виктор Балакирев**, директор Минского международного образовательного центра имени Йоханесса Рау, в Тростенец уже организуются экскурсии. Но инфраструктура пока отсутствует. Поэтому у Дортмундского международного образовательного центра возникла идея создать выставку о лагере на двух языках (немецком, а также русском или белорусском) и показать ее в учебных заведениях Беларуси и Германии. Средства для разработки концепции выставки, которую должны представить до мая следующего года, выделил МИД ФРГ.

В ноябре 2014-го участники рабочей группы побывали с образовательной поездкой в Германии и Польше. Как отметил историк **Кузьма Козак**, музеи Западной Европы кардинально отличаются от отечественных. Если у нас под войной понимаются только военные действия, то в Дрезденском военно-историческом музее рассматриваются такие проблемы, как война и театр, война и живопись, война и культура. С коллегой согласен и историк **Александр Долговский**. По его словам, в СССР обращали внимание лишь на сопротивлении во время боевых действий. Ничего не говорилось о жизни людей до и после войны.

Ожидается, что выставка будет подготовлена к осени 2015 года и станет одним из этапов в создании мемориала в лагере смерти "Тростенец".

**Максим ПЛОТНИКОВ.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Тэл.рэкламнага аддзела: (017) 3286609,**
**прыёмная: тэл./факс (017) 3286871 3286906.**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 1.12.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28510 экз. Заказ №4942.**